# БАРАЦЬБА

„BARATZ'BA"-Zentralorgan der Bjelorussischen (Weißruthenischen) Befreiungsfront

Цэнтральны Ворган Беларускага Вызвольнага Фронту
Выдае: Палітычна-Прапагандовы Аддзел Галоўнага Штабу БВФ

№79-80 | Сьнежань 1972 г. | Год выд. ХУІІІ


## ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДНЫХ СЬВЯТ

## І

## ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1973 ГОДУ

ад шчырага сэрца жадаем нашым Сябрам, Прыхільнікам і ўсім нашым Суродзічам тут на Чужыне і на Бацькаўшчыне, ды тым Беларусам, якіх вывезлі маскалі з Роднага Краю на ялавіны, у Сібір, ці замкнулі ў падвалах МВД.

Хай Бог дапаможа ім перажыць жудасьці няволі, дадасьць сілы ў змаганьні за вызваленьне Беларусі, за лепшае заўтра ўсяго беларускага народу!

ГШ БВФ і Рэд. "Барацьба"

*

Зблізжаюцца Калядныя Сьвяты. Для нас, старэйшых, якія сьвяткавалі Каляды на Бацькаўшчыне, ажывае прыемны і балючы ўспамін Калядных Сьвят...

У Беларусі прыгатаўляліся людзі да Каляд не так, як тут на Чужыне. У першую чаргу пасьцілі Піліпаўскі пост. Елі грыбы, рыбу, смажылі на льняным алеі і ім закрашвалі, елі сушаныя грушы, яблыкі, сьлівы. Людзі прыгатаўляліся да Каляд душой і целам, сьпяшаліся з работай.

Жанчыны пралі, каб хутчэй дапрасьці і пасьля Каляд разцягнуць аснову. Мужчыны малацілі, поркаліся на гумнах, звозілі сена з балот у гумны. Гаспадыні даглядалі кормнікаў, каб на Каляды была сьвежая каўбаса, скварка. Работы было шмат, бо трэба было падумаць і пра новы кажушак, валянкі, ці іншую абнову. Трэба ж спаткаць Калядныя сьвяты па-людзку, па-беларуску!

Тут на Чужыне, асобна ў Нямеччыне, сьвятачная мітусьня пачынаецца амаль што два месяцы да Каляд. Крамы выстаўляюць сьвятачныя тавары, заахвочваюць пакупнікаў купляць. І людзі купляюць, асабліва тое, што маніць сваім харастовм, ці смакам дзетвару. Купляюць упрыгожваньні на ялінку. Горад упрыгожвае вуліцы галінкамі ялінкі, рознакалёрным сьвятлом. Выбіраюць падаркі блізкім, купляюць, хаваюць ад іх, каб у Сьвяты вечар падарыць таму, каму яны прызначаны.

І раптам перад самымі Калядамі, вечарам, заціхае горад, заціхае вуліца, пусьцее ад людзей. Нават сталоўкі, піўнушкі ў горадзе зачыняюцца. Усе сабіраюцца дамоў.

У Нямеччыне гэты вечар ёсьць амаль што канцом перадсьвятачнай мітусьні. Вечарам сабіраюцца ўсе дамашнія, прыбіраюцца, сабіраюцца каля ялінкі, пяюць песьні, у першую чаргу "Сьвятая ноч, ціхая ноч", раздаюць падаркі, павячэраюць той жа вячэрай, якую ядуць зўсёды. На другі дзень адведваюць блізкіх, дараць ім падаркі і на гэтым сьвята канчаецца.

У Беларусі, наадварот, Сьвятым вечарам пачынаюцца калядныя сьвяты. Яны цягнуцца тры дні, а пасьля трох дзён пачынаюцца прысьвяткі – працаваць можна толькі днём да заходу сонца.

Пасьля Каляд прыходзіць Новы Год з варажбой, што прынясе ён. Праўда, і на Каляды варожаць – цягнуць сена з стала, варожаць, які заро-

дзіць каму лён.

А пасьля Новага Году чакаюць на Вадохрышчы. І яны маюць свае хараство ў Беларусі. Ідуць на раку з працэсіяй, на ляду адбываецца Багаслужба. Дамоў прыносяць сьвецоную ваду з ракі, галінкі ялінкі, якія бароняць людзей, жывёлу ад усяго благога.

Вось як апісвае Каляды Якуб Колас у сваёй паэме "Новая Зямля":

Прышлі Піліпаўка, Мікола,
Дзянткі праходзяць больш вясёла,
Бо хоць зіма і крэпіць дужа,
І хоць бушуе яе сьцюжа,
Бы тое дзікае ігрышча,

І вецер жудасна засьвішча,
Як на дудзе ці на клярнэце
На нейкім злыдневым банкеце,-
Ды ўсё-ж сьвятлеюць даляў вочкі
І іх бялюткія сарочкі.
Ёсьць хараство і ў гэтых зімах
І ў мёртва-белых тых кілімах,
Што віснуць зьзяюць хрусталямі
Над занямелымі лясамі,
Калі ў вагністым мароз троне
У крывава-барграваі заслоне
Над сьветам рукі ціха ўздымае
І зачаруе, усё абніме;

А як усходзіцца завея,
І вецер зь сьнегам задурэе
Ды затрасецца віхрам белым...
Эх, колькі волі ў руху сьмелым!

-Гуляй зіма, твая часіна!
Ды скора будзе палавіна,
А там цяплом табе павее,
А ўдзень і сонейка прыгрэе!

Прыелась хлопцам і вучоба:
Цяпер Калядак чакаць трэба,
І думка іх ня тым занята,
Усё болей ходзіць каля сьвята.
І міла гэта іх чаканьне!

Куцьця. Мароз. Хмурнавата.
Сьняжок падкідвае заўзята;
Сьнег на Куцьцю - грыбы на лета,
Такая матчына прымета.
А сьцежкі чорны - ягад многа;
Ну і за гэта хваліць Бога.
Якія ж матчыны намеры
На конт куцьці, на конт вячэры?
Ох, гэта дзецям знаць цікава
Калі якая будзе страва,
У якім ліку, у якім парадку?
Што на канцы і што ў пачатку?
А ў маткі ўсё абмеркавана
І ўсё прадумана ад рана.

У хаце добры лад і згода
Як патрабуе і прыгода,
Паважнасьць вечара сьвятога -
Ня ўчуеш слова ты благога.
І ўсе прыбраліська і памыліся,
Міхал з Антосям падгаліліся
І парашчэсвалі чупрыны.

І вось вячэра зачалася!
Спыніцца мушу я на квасе:
Ён колер меў чырвонаваты;
Тут быў таран, мянёк пузаты,
Шчупак, лінок, акунь, карась,
Кялбок і ялец, плотка, язь,
Яшчэ засушаныя зь лета.
Але ня ўсё яшчэ і гэта:
Закрашан квас быў і грыбамі,
Выключна ўсё баравічкамі;
Цыбуля, перчык, ліст бабковы -
Ну, не ўясісь, каб я здаровы!
Пільнуй - цішком скажу між намі -
Каб і язык ня ўцёк часамі.
За квасам елі верашчаку,
А потым блінчыкі на маку,
А там ламанцы-праснакі
З пшанічнай добрае мукі;
А макаў сок такі салодкі!
Ламанцы ў ім, ну, як калодкі -
Так добра макам праняліся,
У рот паложыш - абліжыся.
За праснакамі йшлі кампоты,
Кісель зь мядоваю сытою;
Вячэру скончылі куцьцёю,
Але ўжо елі без ахвоты,
Абы падатак той аддаць,
Стары звычай ушанаваць.
І пасьля гэтакай вячэры
Жывот выпучваўся бязь меры,
А з-за стала як уставалі,
То нават трохі і стагналі.
На першы дзень сьвятых Калядак -
Такі ўжо быў стары парадак -
Зьбіралі сена із стала,
Кармілі ім каня, вала
І ўсіх жывёлін, хоць па жмені,
А на стале, ў драбнюткім сене -
Здавён-даўна вялося й гэта -
Уважна зернятак шукалі
І па тых зернятках гадалі,
Які зародзіць хлеб на лета?

Ю.

.............................. ***** ......................

Просім нашых Супрацоўнікаў дасылаць матэрыял у чарговы нумар "Барацьбы", які пасьля Каляд будзе прыгатаўляцца да выданьня.

---



## СЛОВА ПРА ЯКУБА КОЛАСА
### да 90 угодкаў з дня нараджаньня

Якуб Колас - сапраўднае прозьвішча Міцкевіч, паэт, пісьменьнік і пэдагог. Кожны Беларус, кожны падсавецкі чалавек ведае яго, ведаюць пра яго таксама і за межамі Савецкага саюзу. Ён напісаў шмат літаратурных твораў, а такія ягоныя творы, як паэма "Новая Зямля", "Сымон Музыка" ёсьць непаўторныя, і я не пераборшчу, калі скажу, што гэтыя паэмы ёсьць дыяманты не толькі ў Беларускай літаратуры, але і ў сусьветнай.

Колас адлюстраваў у гэтых паэмах беларускае жыцьцё і імкненьне Беларуса мець собскі кавалак зямлі, мець свабоду так прыгожа, так вобразна, што чытаеш іх і не начытаешся ўдоваль. Гэтымі творамі паэт паказаў, як багатая, як прыгожая ёсьць беларуская мова, на якой можна выявіць усе пачуцьці людзкай душы, прыгожасьць навакольнага сьвету.

Мы, сучаснікі Коласа, а асобна нашае маладое пакаленьне, павінны ганарыцца і Коласам, і нашай роднай мовай, перахоўваць яе, як найдаражэйшы дар ад Бога, ад нашых продкаў, нашага народу, які перахаваў яе ад маскоўска-польскіх зьдзекаў (бо быў час, калі яна была зусім забаронена - гэтак дзікія ёсьць нашы суседзі!) і цяпер яны устрымоўваюць яе рост, хоць яна была калісь мовай і князёў, і дыплёматаў.

Якую Колас пачаў пісаць яшчэ перад кастрычніцкай рэвалюцыяй. Свае першыя вершы друкаваў у "Ніве", у "Нашай Долі" - у першых беларускіх газэтах, што пачалі выдавацца ў нашай Вільні ў царскай някволі.

Усе літаратурныя творы, якія напісаў Колас перад рэвалюцыяй і ў час рэвалюцыі аж да прылучэньня БССР да Савецкага Саюзу, г. зн. да 1922 г., стаяць высака па сваім мастацтве і ідэйна, у якіх заклікаў Колас змагацца за лепшае заўтра свайго народу.

Яго лічаць таксама і савецкім беларускім народным паэтам, бо ён пісаў і пасьля далучэньня БССР да СССР аж да апошніх дзён свайго жыцьця. Колас памёр у 1956 г.

"Новая Зямля" была напісана раней, а "Сымон Музыка" канчаўся у савецкі час **Абедве** паэмы некалькі разоў перарабляліся не Коласам, як цяпер выявілася, а маскоўскімі цэнзарамі, дапасоўваліся да патрэб маскоўска-шавіністычна-імпэрыялістычных патрэб, нават былі нейкі час забаронены.

Літаратурная спадчына Коласа, якую ён напісаў у савецкі час, гэта лакіроўшчына савецкага жыцьця, савецкай акупацыі. Яны не дараўнялі ані сваім мастацтвам, ані сваім зьместам паэмы "Новая Зямля", або "Сымона Музыку", або іншых ягоных творах, пісаных перад кастрычнікам.

Шкада, і вельмі шкада, што Коласу давялося жыць і пісаць у някволі, бо інакш ягоныя творы ад пачатку і да канца былі б на такім ідэйна-мастацкім узроўні, на якіх стаяць успомнены паэмы.

Праўда, Якуб Колас тварыў пад маскоўскай акупацыяй, адначасна ён вырываў з маскоўскіх кіпцюроў усё тое, што мог вырваць для дабра беларускага народу, для беларускай культуры вось так, як мы вырывалі з рук акупантаў-фашыстаў. Якуб Колас падтрымоўваў усё супроцьсавецкае, супроцьмаскоўскае, нават даваў грошы на гэты рух.

Мы называем Якуба Коласа народным паэтам, але ніколі савецкім, бо ён ніколі такім нябыў. Каб ён дажыў да свабоды, ён сам ачысьціў бы сваю лакіроўшчыну савецкага жыцьця.

Беларусы ведаюць пра гэта і яго цэняць. Пабудавалі яму помнік з бронзу на 8 м. высокі, а побач ў аддалі героі ягоных твораў - Сымон Музыка, дзед Талаш. Нядаўна адкрылі яго ў Менску на плацы ягонага імені. Ягоным іменем названы культурныя установы, вуліцы і завулкі, залежна ад таго, на што дазволіў акупант. Маскалі "ушанавалі" яго па-свойму - назвалі вадаплаў-грузавік ягоным іменем. Аднак, іменем Пушкіна-шавініста назвалі вадаплаў пасажырскі, прыгожа уладжаны. Як бачыце, пашана пашане няроўная.

Колас дарагі кожнаму Беларусу, ці ён сядзіць у калгасе, ці культурных установах, ці ён рабочы, ці служачы, ці ўдома, ці на выгнаньні

на ялавінах, ці ў падвалах МВД, ці нам тут на Чужыне. Ён заўсёды заклікаў да змаганьня за лепшае заўтра беларускага народу.

Як цэняць Коласа, як паэта, як пэдагога, як чалавека, прыводжу ніжэй выразкі з высказваньняў многіх людзей, якія друкаваліся ў менскіх газэтах. Тое, што яны часта прыпісваюць Коласу партыйнасьць, міжнароднасьць, мы ня бярэм гэтага паважна, бо ведаем у якіх абставінах яны гаворацца, пішуцца. Колас для нас не ёсьць ані савецкі, ані міжнароднік, хоць ён шанаваў культуру і іншыя народы. У першую чаргу ён быў патрыёт сваёй Маці-Беларусі, пісаў для свайго народу, змагаўся за лепшую ягоную долю. Калі ён у 1939 г. прыехаў у Зах. Беларусь, дык пра Савецкі Саюз маўчаў. Гэтае маўчаньне гаворыць само за сябе.

Выразкі з газэт:

"ТворчасьцьЯкуба Коласа - яркая старонка ў мастацкім развіцьці беларускага народа. Разам з выдатным беларускім паэтам - Янкам Купалам Якуб Колас закладаў першыя цагліны ў вялікі гмах сучаснай беларускай літаратуры...

Гарачай сыноўскай любоўю кахае паэт сваю родную Беларусь, чулліва апявае яе цудоўную прыроду, першабытныя лясы, паўнаводныя рэкі і зялёныя лугі, услаўляе яе працоўны народ. Як паэт-патрыёт і рэвалюцыянер, якога царскі ўрад схаваў у турму за вольналюбівыя вершы, Якуб Колас цьвёрда верыў, што для беларускага народа прыйдуць лепшыя часы, што эпоха чорнай рэакцыі...зьменіцца эпохай свабоды і шчасьця для людзей", піша "Ніва" у сваім нумары 45 за 72 г.

"Якуб Колас у нашай сьвядомасьці больш чым толькі славуты прадстаўнік беларускай класічнай літаратуры, палымяны трыбун слова, выдатны пісьменьнік. У яго шматгранным самабытным таленце, рознабаковай дзейнасьці, кіпучай мэтанакіраванасьці, у яго жыцьці, у яго асобе выявілася невычэрпная моц і незвычайныя здольнасьці беларускага народа. Сын свайго народу і часу, Я. Колас адлюстраваў галоўныя асаблівасьці нацыянальнага жыцьця і народнага характару,"- піша Л. Фіглоўская у № 87 ЛіМ за 72 г.

"Якуб Колас быў чалавекам своеасаблівым. Ён не любіў празмернай пахвальбы, пазбягаў людзей занадта гаваркіх і мітуслівых, быў схільны да філасофскай паглыбленай размовы. Калі траплялася быць у кампаніі самазадаволеных весельчакоў, Якуб Колас рабіўся змрочным і незадаволеным. Яму не падабаліся лёгкія жарты і ўсялякія перасуды. У такім разе хутка пакідаў кола знаёмства. Ён сьпяшаўся дадому, каб не чуць непатрэбнай балбатні," - піша Мікола Хведаровіч у тым жа нумары ЛіМ.

"Любімым настаўнікам называлі Якуба Коласа і вучні, што вучыліся ў яго, і студэнты, якія слухалі яго зьместоўныя лекцыі па роднай мове, і пісьменьнікі, якія з яго дапамогай увайшлі ў вялікую літаратуру", - піша там жа М. Базарэвіч.

"Паэзія Коласа моцна зьвязана з жыцьцём Беларусі - з яе песьнямі, фальклорам, павер'ямі, з яе працоўным людам, яго барацьбой і бытам. Разам з усёй краінай Якуб Колас прайшоў цяжкі і доўгі шлях", - пісаў Дзям'ян Бедны у 1935 г.

"Ён быў вельмі звычайны як чалавек, звычайны ва ўсім і заўсёды - у сям'і, у адносінах з сябрамі, у сваіх густах і поглядах на з'явы жыцьця, літаратуры, на час і на людзей. Але менавіта гэтая звычайнасьць і рабіла яго народным і мудрым, бо, акрамя ўсяго іншага, што мае кожны чалавек, ён меў яшчэ вялікі талент, ён умеў бачыць і асэнсаваць самае галоўнае ў жыцьці. Яго пачуцьці і думкі выяўлялі настрой мільёнаў сялянства і народнай інтэлігенцыі," - пісаў Іван Шамякін у 1962 г.

"Беларусь была не толькі яго маці, але была яго жыцьцём, яго лёсам - і цяжкім, і шчасьлівым, радасным. Ён сам пахадзіў па гэтай зямлі, ведаў працу на яе палях і цішыню яе лясоў, спакой яе вод. А галоўнае - так ведаў і любіў чалавека гэтай зямлі, яе народ, як толькі можа любіць паэт, які сам выйшаў з народа і прыняў на свае плечы - на ўвесь адмераны яму жыцьцёвы шлях - адказнасьць за народную долю", - піша Міхаіл Ісакоўскі ў 1962 г.



"У яго вершах такія мастацкія звароты і вобразы, такія яркія, праўдзівыя карціны беларускай прыроды, што здаецца складаў іх сам народ. Яго паэзія шчырая, як сама народная песьня", - пісаў Рыгар Шырма ў 1952 г.

"Пабываць на радзіме вялікага беларускага паэта Якуба Коласа - ў Мікалаеўшчыне вучні нашага класа марылі ўжо даўно.

І вось мы на зямлі вялікага песьняра. Бясконцы прастор, блакітны ўдалечыні, і цёплыя, ласкавыя хвалі Нёмана здаюцца казачнай карцінай цуда-мастака. У ваколіцы сяла Мікалаеўшчына ёсьць маляўнічы куток - Смольня. Высокія разлапістыя ліпы, пасаджаныя самім Коласам, крыху нахіляюць свае пышныя кроны, вітаючы нас. Каля іх - нізенькая сялянская хата з мемарыяльнай дошкай. Тут жыў Якуб Колас, тут ён упершыню сустрэўся з Янкам Купалам,"- піша Люда Муравіцкая ў "Піянеры Беларусі", № 44 за 72 г.

Якуб Колас і Янка Купала аднагодкі. Крыху раней, бо ў ліпені, адсьвяткавалі нашы Суродзічы на Бацькаўшчыне таксама 90 угодкі з дня нараджаньня Янкі Купалы. У парку імя Янкі Купалы ў Менску пабудаваны велізарны помнік паэту. Наступнага дня адбылося урачыстае сьвяткаваньне угодкаў у беларускай вёсцы Вязынка, дзе нарадзіўся Янка Купала і правёў першыя дні свайго жыцьця. Тут сабралася шмат народу, прыехала шмат прадстаўнікоў ад іншых саюзных рэспублік. Янка Купала ёсьць не менш ведамы за Коласа. Ён вырываў з рук акупанта усё, што толькі мог вырваць для дабра беларускага народу. У гэтым жорсткім змаганьні Янка Купала пакончыў самагубствам, даведзяны акупантамі-маскалямі да роспачы. Ёсьць таксама і завулкі імя Янкі Купалы, бо акупант, нібы хоча яго ушанаваць, аднак не такой пашанай, на якую заслужыў Янка Купала.

Схіляем і мы галовы перад гэтымі Волатамі Беларускага слова, носьбітамі ідэі адраджэньня Беларусі. У вольнай Беларусі ушануем мы гэтых паэтаў не завулкамі і таварнымі вадаплавамі, а шмат лепшым.

Я. З.

---------

Верш Купалы "Хлопчык і лётчык" быў любімым творам першага касманаўта, нашага суродзіча, Юрыя Гагарына. Ён дэкламаваў яго, сьпяваў, і ў яго хаце ўсе ведалі гэты цудоўны героіка-рамантычны верш, які клікаў моладзь да новых вяршынь, - піша А. Есакоў у "Настаўніцкай Газэце" №53.

---------

Пры дапамозе ўнучкі Фр. Багушэвіча знойдзены ягоныя паперы, якія былі закопаны у хляве у шкляным слоіку. На вялікі жаль, слоік быў пабіты, дайшла вада і усе паперы так папсаваныя, што нельга іх адчытаць.

Войны, якія вялі на нашых землях усходнія і заходнія імпэрыялісты спрычыніліся да таго, што шмат нашых нацыянальных культурных памятак згінула бясследна. Ці ж гэта нас ня абурае?!

---------

У вёсцы Ануфрыева, што каля Крычава, стаіць царква, пабудавана ў XVII стагоддзі з цэглы, якая была памерам шмат большая ад цяперашняй. Праз вёску і ваколіцу ішлі жарсткія баі у час мінулае вайны, але царква, як на дзіва, засталася цэлай. Аднак, ёю ніхто не апекуецца, яна гіне паволі ад часу, які кладзе на яе глыбокія сьляды. Гр. Мельнікаў, пішучы пра яе ў ЛіМ мінулага году шкадуе, "што забыта яна рэстаўратарамі і рознымі арганізацыямі, якія ахоўваюць і прапагандуюць помнікі гісторыі".

---------

У бібліятэцы Віленьскага унівэрсытэту знойдзена апошнім часам шмат цікавых рукапісаў з даўніх часоў і перадваенныя. Шкада, што гэтае культурнае багацьце ляжыць у рукапісах, ёсьць ня ў руках беларускага народу а летувісаў, калісьніх жмудзякоў.

---------

Жэня ЯНІШЧЫЦ

## МАЭСТРА

Дзядзьку Міхасю

Я знаю: волю гартавалі
І не цярпелі горкіх сьлёз,
І ноччу думалі, не спалі
(О, не пра свой!) – пра песьні лёс.
Ды ці ў жыцьці не наракалі,
Не сумавалі Вы, калі
Не адкахаўшы – адкахалі.
І толькі песьняю жылі?!
І што Вы там ні гаварыце –
Я знаю, бачу па вачах,
Як васількі ў спелым жыце
Нязгасна сьняцца па начах.

----

## ТОЕ І СЁЕ

"Жыць стала лепш, жыць весялей" – пяецца ў савецкай песьні. Як сапраўды жывецца пад саветамі, расказвае настаўніца Г. Коканава ў №29 ЛіМ за 71 г.:

"Навалілася столькі работы, што няма калі дыхнуць. Вось і ўчора прыйшла са школы вечарам. Прыйшла, калі дзеці ўжо спалі. Раніцай таксама іх не бачыла, бо пайшла на першы урок. Добра, што зараз са мной мама, якая шкадуе мяне і пакорліва нясе ўвесь цяжар хатніх клопатаў, толькі бурчыць трохі, калі позна прыйду. А гэта здараецца часта. Амаль кожны дзень акрамя ўрокаў сход або нарада, паседжэньне або секцыя ці там семінар які. А калі ты яшчэ класны кіраўнік, то твайму працоўнаму дню канца няма.

Ды настрою няма. Нешта ўдарылася я ў песімізм."

Як бачыце, не праца ў школе, але партыйныя сходы, партыйныя нарады, паседжаньні, секцыі, семінары зьбіваюць з ног настаўнікаў. Да гэтага трэба дадаць, што гэтыя сходы і нарады ня маюць нічога супольнага з навучаньнем моладзі. Гэта партыйныя клешчы, каб трымаць усіх паслухмянымі партыі. І нічога дзіўнага, што дзеці адстаюць з навукай.

Выкладчык інстытута замежных моў сказаў на гэта настаўніцы Коканавай:

-Што, Галіна Міхайлаўна, усё кансультуецеся? А навошта? Усё роўна вашых вучняў прыходзіцца перавучваць, калі трапляць да нас."

У верасьні бягучага году скончылася XX алімпіяда ў Мюнхэне. У час алімпіяды было шмат радасьці, шмат дасягненьняў, і адбылася вялікая трагэдыя, бо арабы ўзялі ў палон, як закладчыкаў, жыдоўскіх спортменаў, а калі нямецкая паліцыя хацела вызваліць іх, пагінулі жыды і арабы – разам згінула 16 чалавек. Гэтая падзея ёсьць не толькі трагэдыяй жыдоў і арабаў, але трагэдыяй часу. Яна мае свае глыбокія карані, заблытаныя сільнымі сьвету гэтага. Але гэта асобная старонка алімпіяды і трагэдыі. Вернемся да самай алімпіяды.

На алімпіядзе былі і беларускія спортмены, але пра іх пераважна гаварылі у нямецкім радыё, пісалі ў газэтах як пра "савецкіх маскалёў". Прыкра і балюча, але так ёсьць. Няўжо маскалі хочуць, каб і мы перашлі на тактыку арабаў? Тады Беларусы выступалі б як Беларусы, а не як "савецкія маскалі".

Гавораць, што пасьля жыдоўска-арабскай трагедыі, маскалі, што былі там для аховы сваіх падданых, баяліся за сваю скуру, хадзілі з паржавелымі штанамі...баяліся Беларусаў. Цікава тое, што беларускіх спортменаў ахоўвалі маскалі не таму, што ім мог бы нехта нешта зрабіць, а таму, каб не ўцяклі за вароты "алімпійскай вёскі".

Савецкі Саюз атрымаў найболей залатых медалёў – 50, з якіх атрымалі 11 медалёў Беларусы.



ЗША атрымалі 33; Усх. Нямеччына 20; Зах. Нямеччына 13; Японія 13; Беларусь, як вышэй сказана было, атрымала 11; Аўстралія 8.

Калі лячыць па дзяржавах, дык Беларусь стаіць на шостым месцы, а калі мы будзем лічыць гэтыя медалі па адносінах нацыянальнага насельніцтва, дык Беларусь стаіць на першым мейсцы! На другім мейсцы стаіць Усх. Нямеччына. Трэба браць яшчэ пад увагу і тое, што Беларусы з Віленшчыны, з Пскоўшчыны, з Смаленшчыны, з Браншчыны, з Чарнігаўшчыны і Беласточчыны ёсьць дапісаны да іншых народаў, якія, з якімі яны разам выступалі.

І мы ганарымся нашым асілкам Мядзьведзем, і нашай найспрытнейшай Ольгай Корбут. Яны выступалі ад нацыянальнасьці, а не ад партыі.

Нас ня дзівіць, што савецкія спортмены атрымалі найболей залатых медалёў, бо іх самых было найболей, падмацаваныя беларускімі спортменамі. Кожны пяты медаль атрымалі Беларусы з абрэзанай Беларусі, у межах якой жыве крыху болей як 9 мільёнаў – гэта 24 частка усяго Савецкага Саюзу па цяперашніх даных.

Пры нагодзе варта заглянуць у школы, скуль выходзяць гэтыя спортмены. Тая самая Коканава ў тым жа самым нумары газэты піша:

"Ох, гэтыя спартыўныя класы. З усіх школ горада сабралі дзяцей, якія займаюцца плаваннем у спартыўных секцыях, і арганізавалі з іх некалькі класаў у нашай школе. Пакуль што наша школа ў гэтым сэнсе адзіная ў рэспубліцы. Так сказаць, эксперымент.

Вучні спартыўных класаў на асобным рэжыме. Яны вызвалены ад урокаў спеваў, маляваньня, дамаводства. Яны ў гэты час плаваюць. Натуральна і іншыя дысцыпліны ў іх кульгаюць на абедзьве нагі. Многія з будучых спартменай (і ці будуць яны яшчэ спартменамі?) адстаюць па матэматыцы, літаратуры, мовах...

Пра гэта і сказала на педсавеце. Ого, як не спадабалася. Госьці выказаліся ў тым сэнсе, што замежная мова – не самая галоўная, што патрэбна чалавеку".

Самае галоўнае, каб ведаў маскоўскую мову!

"Цяпер – гавора далей настаўніца – праграму, разлічаную на 4–5 заняткаў, вымушаны праходзіць за 2 урокі" – пабальшавіцку. А як з падручнікамі?

"Не ведаю, хто іх складаў. Некаторыя тэксты, далібог, разлічаны на дэфэктыўных дзяцей." – гавора настаўніца. – "Могуць спытаць, а дзе ж метадычныя дапаможнікі?" Таксама нікудышнія.

"Я шмат чытала пра работу лінгафонных кабінетаў у некаторых маскоўскіх і ленінградзкіх школаў. Там дабіліся фантастычных вынікаў."

"Год таму назад наш райана выдаў загад стварыць лінгафонныя кабінеты ў школах раёна. Чыстая манілаўшчына. З чаго такі кабінет рабіць, калі на ўсю школу адзін няспраўны магнітафон? Ды і паспрабуй магнітафонную плёнку купіць у магазіне. Так усё і засталося па-ранейшаму...Што тэхніка, калі "Кнігу для настаўніка" – абсалютна неабходны для работы дапаможнік – не знойдзеш у магазінах, пазычаеш адзін у аднаго!"

"Пішу гэтыя радкі і лаўлю сябе па душы – вось я скарджуся на нешта, я, настаўніца сталічнай школы. А што тады гаварыць нашым калегам, якія працуюць на перыферыі?"

Ів.

-------

Храпе Брэжнеў, быццам капу жыта змалаціў, а пасьля пачаў стагнаць. Жонка будзіць яго і пытае:

-Што з табой, Леанід?

-Нічога. Дрэнны сон сьніў.

-А што сьніў?–дапытваецца.

--Увесь сьвет стаў камуністычным.

-Дык гэта добра,--узрадавалася жонка.

-Добра? А дзе тады дасталі б пшаніцу на павер?--адказаў Брэжнеў.

з нямецкае прэсы

-------

Віктар ШМУК

## М А Е Д Р Э Ў Ц Ы

Калі іду, заўсёды прыпынюся,
Ля скверыка Купалы пастаю.
На ліпы кучаравыя дзіўлюся,
Гляджу на працу даўнюю сваю.
Дзень добры, дрэўцы! Вы мяне пазналі?
Было гэта шмат год таму назад.
На гэтым месцы ямкі мы капалі
І ў іх садзілі ліпы рад у рад.
Цяпер заўсёды тут я прыпынюся
І задуменна, ціха пастаю.
На ліпы кучаравыя дзіўлюся
і іх, сваіх, заўсёды пазнаю.
І ім, траім, да скону я не здраджу.
Яны ж раслі ў вязынскім бары.
Вы не замерзлі? Дайце вас пагладжу
Сваёй рукою цёплай па кары...

-----

## ВОСЬ ЁН - "САВЕЦКІ ЧАЛАВЕК"!

(з міліцэйскага пратакола)

"...атрымаў я аванс 30 рублёў. Каля завода сустрэліся мы з маім сябрам Косьцікам Буглаком, які таксама ў нас працуе. З ім быў яго таварыш Паддубскі.

Рашылі мы аванс наш замачыць. Купілі літр гарэлкі, некалькі бутэлек піва, выпілі. Пасьля трамваем паехалі ў бок вуліцы Першамайскай. Калі сышлі з трамвая, Паддубскі некуды знік. Тут мне захацелася закурыць. Я падышоў да нейкага чалавека і папрасіў цыгарэтку. Ён сказаў, што ў яго няма. Я ляснуў яму кулаком паміж вачэй, ён і з капытаў - п'яны быў.

Вось тады мы і рашылі чым-небудзь пажывіцца ў яго. Хацелі на вуліцы распрануць, дык жа людзі ходзяць...Пацягнулі мы таго чалавека ў бліжэйшы дом, драўляны, помню, дом. Толькі зайшлі ў пад'езд, як увайшла нейкая жанчына, убачыла нас і падняла гвалт. На той гвалт з кватэры выскачыла некалькі хлопцаў. Пачалі пытацца, чаго тут нам трэба і што за чалавек ляжыць на падлозе. Я ж таго на вуліцы як ударыў,дык ён адразу стаў непрытомны. Ну, мы і кажам тым хлопцам, што гэта наш знаёмы напіўся і яму зрабілася нядобра. Узялі мы яго за рукі і пацягнулі на вуліцу. (з паказаньняў С. Шарамета)

"Мы яго пацягнулі ў пад'езд суседняга дома, ды схавалі пад лесвіцу, што вядзе на першы паверх. Чалавек у гэты час ачухаўся і схапіў Жэню Катліцкага за каўнер. Мы яго паваліліі і далі некалькі разоў... Ён і сьціх. Мы зьнялі з яго пінжак, гадзіннік і пайшлі."

(з паказаньняў К. Буглака)

"Калі ён страціў прытомнасьць, зьнялі з яго куртку, пінжак, кашулю, забралі 58 рублёў грошай. На вуліцы я пачаў прымяраць куртку і ў гэты момант нас забраў міліцэйскі патруль."

(з паказаньняў Я. Катлінскага)

"Далібог, дрыжыць пяро ў руках. Не ў цёмным лесе, не ў чыстым полі - у цэнтры горада...на вачах дзесятка сьведкаў забілі чалавека, --піша пра гэтае здарэньне М. Замскі ў №15 ЛіМ за 72 г.

Сяргей Шарамет, гаворачы з Замскім пра гэту справу, сказаў:

-"Чаму не пазваніў? Цяжка сказаць адразу...Ну, ляжыць пяны...Дык звычайны малюнак. Гэта калі за кожным разам турбаваць міліцыю, дык той міліцыі не хопіць...Не думайце, што я нейкі п'яніца. Магу і не піць. Не цягне. Але ж так павялося, што з палучкі і з аванса трэба выпіць. Бо сумна. Фільмы ўсе перагледзеў, на танцы, дык самі ведаеце, якая там культура...Вось і вып'еш з таварышамі. Мне здаецца, што з намі, з моладдзю, нешта недапрацавана. Не ствараюць нам умоў." П.

-----



## ШКОЛАМ - ДОБРУЮ МЭБЛЮ, АЛЕ ДЗЕ ЯЕ УЗЯЦЬ?

У камітэце народнага кантролю БССР гаворыцца, што:

"У Пінскім вытворчым дрэваапрацоўным аб'еднаньні, які заняты вырабам школьных лавак, дапускаюцца адхіленьні ад тэхналогіі. Тут сістэматычна парушаецца рэжым сушкі драўніны. Пасьля кароткага карыстаньня адклейваецца пласьцік ад верхніх накрывак лавак. Афарбоўка выконваецца ўручную, што зніжае якасьць аддзелкі."

Нічога таму дзіўнага, што:

"Са школ Менска, Віцебскай, Горадзеньскай і іншых абласьцей пасыпаліся скаргі на нізкую якасьць школьных лавак. Адміністрацыя вымушана была прымаць тэрміновыя меры па ліквідацыі дэфектаў.

На Петрыкаўскім камбінаце будаўнічых матэрыялаў набор фарбаў, якія выкарыстоўваюцца для афарбоўкі лавак, не дае магчымасьці прытрымлівацца колернай гамы ў адпаведнасьці з зацьверджаным эталонам. Зборка і аддзелка лавак праводзіцца тут уручную.

У Навагрудку...зробленыя на заводзе ўзоры былі адобраны і зацьверджаны камісіяй. Аднак, да гэтага часу масавая вытворчасьць крэслаў не пачата, бо праектанты не забяспечылі завод неабходнай тэхнічнай дакументацыяй.

Галоўнымі прычынамі нізкай якасьці вырабаў амаль ўсюды зьяўляюцца недасканалыя метады апрацоўкі сыравіны, парушэньні тэхналагічнай дысцыпліны, слабы тэхнічны кантроль,"-гаворыцца ў камітэце.

Мы, аднак, тэй думкі, што німа добрых майстроў - усе яны вывезены маскалямі на ялавіну, або будаваць Маскву, а тыя няўдалушкі, якіх прыслала Масква "на дапамогу беларускаму народу" з іншых куткоў сваёй імпэрыі, ясна, ня могуць зрабіць добрай школьнай мэблі. А на гэтым церпляць беларускія дзеці.

Каб Беларусаў ня вывозілі з роднага краю, ня было б турботаў з мэбляй.

Грэч.

-----

Пэрон, былы дыктатар Аргентыны, прабыўшы на выгнаньні (у Гішпаніі) 17 год,вярнуўся 17 лістапада г.г. ў Аргентыну. На просьбу старшыні цяперашняга ураду, Пэрон адмовіўся выступаць з прамовай на стадыёне, адмовіўся таксама выступаць перад прэсай.

Адны віталі яго шчыра, іншыя абураліся.

-----

Архіялагічныя раскопкі над Бугам і Мухаўцам знайшлі горад Берасьце, якім ён у мінулым быў. Глыбака пад зямлёй захаваліся сьцены хатаў, гаспадарчых прыладаў, упрыгожваньні. Вуліцы былі вускія, але вылажаныя дрэвам. Хаты малыя, густа пабудаваны. Знойдзены гаршкі такога самага ўзору, якія да гэтага часу выраблююць ў Пружанах.

-----

Каля Навагрудка знойдзены курган, у якім былі косьці нашых продкаў. Яны ляжаць там каля 800 год. Па касьцях сьцьверджана, што ў той сівы час на нашай зямлі былі гуманныя адносіны да чалавека, бо хворы на косьці даглядаўся і доўга жыў. У той далёкі час паміралі людзі ад болі зубоў у росьце меней болей 30 год.

-----

Савецкі Саюз закупіў у гэтым годзе 16 мільёнаў тон пшаніцы у заходніх капіталістаў, каб не памерці з голаду. Віну за дрэнны ураджай партыя зьвяргула на надвор'е, але на Захадзе цьвердзяць адваротнае, што прычынай благога ураджаю ёсьць савецкі калгасны гаспадарчы лад.

З гэтым мы таксама згодны.

-----

БЕЛАРУСЬ ПЕРАДУСІМ! Хай гэты кліч будзе Вам шляхаводнай зоркай у Вашай працы і змаганьні за вызваленьне Беларусі.

-----

## Каб БЕЛАРУС БЫЎ САМ ГАСПАДАРОМ

У нэтрах беларускай зямлі ёсьць нафта, ёсьць соль, ёсьць вугаль і шмат іншых выкапняў. Беларусы мелі б з гэтага карысьць, калі б былі самі гаспадарамі на сваёй зямлі. Як ведама, гаспадарамі гэтых багацьцяў ёсьць маскалі-акупанты. Яны ня думаюць пра тое, каб выкарыстаць гэтыя багацьці і ня зрабіць шкоду паверхні зямлі - шкоду сельскай гаспадарцы, не крануць харства наваколься. Маскалі думаюць толькі пра тое, каб дастаць з нашай зямлі болей нафты, і прадаць яе па добрай цане суседнім сацыялістычным дзяржавам.

Вось як выглядае здабыча беларускай нафты:

"...Тэмпы нафтаздабычы ўзрасталі, а на ўпарадкаваньне радовішчаў зьвярталі мала ўвагі. Іх эксплуатаралі, нават не складаючы праектаў на распрацоўку,--піша І. Сіняўскі ў ЛіМ, №22/72 г. - і...дапускалі грубае парушэньне праектаў і навуковых асноў распрацоўкі радовішчаў, сістэматычныя зрывы іх абсталяваньня ў адпаведнасьці са свідраваньнем эксплуатацыйных і нагнятальных адтулін, а таксама сур'ёзныя недахопы ў арганізацыі эксплуатацыі наяўнага фонду свідравін... хоць.... асабліваcьці пласту беларускага нафтавага раёна дазвалялі весьці іх распрацоўку з высокімі адборамі нафты пры невялікай колькасьці сьвідравін. Гэта важна...кожная сьвідравіна каштуе некалькі сотняў тысяч рублёў.

Выклікае трывогу тое, што памылкі па здабычы падземных скарбаў зноў паўтараюцца.

Калі наступае змрок, на поўдзень ад Рэчыцы небасхіл азараецца барвовымі блікамі. Гэта палае газавы факел. Не год палае, не два, а сем. Агонь зьнішчыў мільярды кубаметраў газу і разам з ім эфірныя рэчывы - бензін, іншыя каштоўныя кампаненты.

Наяўнасьць газа-бензінавага прадпрыемства дала б магчымасьць поўнасьцю утылізаваць спадарожны газ, атрымаць тысячы тон высокаякаснага бензіну, шмат іншых элементаў. Прамысловая распрацоўка нетраў паслужыла прычынай узнікненьня шэрагу праблем, якія датычаць аховы прыроды. Адходамі нафтаздабычы забруджваюцца вадаёмы, землі. Калгасам і саўгасам не вернуты сотні гектараў ворнай зямлі і лугоў. Участкі, дзе вялося сьвідраваньне, не прыведзены ў парадак."

Каб Беларус сам быў гаспадаром сваёй зямлі, дык гэтакага спустошаньня і страт ня было б. Ці ж маскалю-акупанту залежыць на тым,каб Беларусы мелі карысьць з нафты ды захаваць прыгожасьць краю? Не! Гэтак выкарыстоўвалі заходнія капіталісты арабскія краіны. І нічога дзіўнага, што арабы цяпер гэтак памстуюць. Скончылася цярпеньне. Скончыцца цярпеньне і паняволеных Масквою народаў.

Я. Зубр

------

Ларыса Геніюш

Воля - ня тое, што рукі развяжуць,
зьменяць на большую клетку малую.
Воля - ня тое, што
"вольны ты" - скажуць.
Воля - то воля, якую адчую.

з "Невадам з Нёмана"

------

Год 1972 з'яўляецца Міжнародным Годам Кнігі. Для нас, Беларусаў, ён ёсьць юбілейны, бо ў гэтым годзе спаўняецца 450 гадоў ад часу надрукаваньня Францішкам Скарынай першай беларускай кнігі ў Вільні ў 1522 г.

У сувязі з гэтым, Беларуская Бібліятэка і Музэй супольна з Публічнай Бібліятэкай дзялніцы Барнэт у Лёндане зладзілі выстаўку "Беларускай Спадчыны ў Лёндане".

Беларуская выстаўка адбылася ў часе ад 30 верасьня да 29 кастрычніка 1972 г.

----



## НАПІСАНА ВІЛАМІ...

У Беларусі гаворыцца: напісана вiламі па вадзе. Гэтая народная мудрасьць даўняя, але яна не страціла сваёй вартасьці і ў цяперашні час. Ёсьць людзі, якія пішуць чарнілам на паперы, друкуюць напісанае, але ўсё гэта мае такую самую вартасьць, што і пісанае віламі па вадзе, хоць знакі на паперы застаюцца, а на вадзе не.

Напрыклад: на паперы напісана, што БССР ёсьць вольная, незалежная нацыянальная дзяржава. Прыгожа напісана! На справе гэтак не ёсьць. Беларусь ёсьць паняволена маскалямі і не ёсьць ніякай незалежнай рэспублікай, а ёсьць адміністрацыйнай акругай у маскоўскай імпэрыі СССР. І гэтак кругом...ёсьць беларускія кнігі ў каталёгу, але іх німа ў прадажы - яны зусім не выдаваліся.

"Паважаны чытач! Гэтыя альбомы вы можаце набыць ва ўсіх магазынах, або заказаць па пошце..." - чытаеш у каталёгу. Калі гр. Беларусаў запытаў у кнігарні, ці яны ёсьць, тая адказала:

"Пра гэтыя альбомы нам пакуль што нічога не вядома. Але паспрабуйце пазваніць у цэнтральную кнігарню, можа там ведаюць".

Гр. Беларусаў пазваніў (паводле матэрыялу, які быў зьмешчаны ў ў ЛіМ з дня 15.X.70 г.).

"Гэтыя альбомы да нас не паступілі. Ды і, увагуле, па нашых звестках яны яшчэ не выходзілі ў сьвет!" - адказалі яму.

Гр. Беларусаў зьвярнуўся да рэдакцыі. Яму адказалі:

"Так, у кнігарні вам далі дакладныя звесткі, яны яшчэ не выйшлі. І ў бліжэйшы час, відаць не выйдуць..."

"Рукапісы такіх выданьняў гадамі ляжаць у выдавецкіх партфелях,--гавора Беларусаў,--выяўленчай прадукцыі выдавецтва "Беларусь" бракуе якасьці, паліграфічнай культуры, літаратурнага густу..."

Так і хочацца запытацца: А дзе тая перадавая тэхніка, перадавая культура, якія створаны за часоў савецкай акупацыі Беларусі? Німа ані тэхнікі, ані культуры. Савецкая ўлада наадварот, устрымала рост беларускай культуры. Не толькі выдавецтва "Беларусь", а і часопіс "Беларусь" пішацца на пакалечанай беларускай мове.

Беларускія землі: Віленьшчына, Дзьвіншчына, Пскоўшчына, Смаленшчына, Браншчына, Чарнігаўшчына, Беласточчына далучаны да іншых "рэспублік" і там не вядзецца ніякая беларуская культурная праца. Там зусім німа беларускага выдавецтва,за выняткам Беласточчыны, што пад польскай акупацыяй. Ды німа каталогаў з кнігамі, якія яшчэ не выйшлі. Калі б Беларусь была вольная і незалежная, дык гэтага ня было б.

Ю.С.

------

Міхась Кавыль

## БЕЛАРУСЬ

Беларусь ты мая, Беларусь,
Няугасная зорка Вэнэра,
Я агнём тваім вечным гару,
У тваё уваскрошаньне веру.
У крывава-чырвоным вянку
Не шчарнелі пялёсткі шыпшыны...
Бачу: госьці на Нёман-раку
Прыляцелі з далёкай краіны...
Вырай, доўга чаканы, расьце.
Груганьнё закрычала над лугам.
А ў тых белакрылых гасьцей
На грудзёх залатыя кальчугі.
Беларусь ты мая, Беларусь,
Няугасная зорка Вэнэра,
Я агнём тваім вечным гару,
У тваё уваскрошаньне веру.

----

## "ПРЫЙДЗІ Ў МОЙ КРАЙ ЯК САМЫ ГОСЬЦЬ ЖАДАНЫ"

Пад такім загалоўкам Мірдза Абола, Латыш, зьмясьціў свой артыкул у ЛіМ за 72 г. з дня 12.5. Аўтар артыкулу вельмі шчыра, адкрыта расказвае пра Беларусаў, якія жылі ў Латвіі, пра суадносіны між Беларусамі і Латышамі, пра літаратурныя сувязі. Частку ягонага артыкулу перадрукоўваем:

"...у Латвіі пражывала значная колькасьць Беларусаў. Становішча іх было незайздроснае...

Заўсёды верным сябрам і памочнікам Беларусаў у іх барацьбе за свае правы, за сваю культуру быў Ян Райніс – ён упісаў адну з самых цудоўных старонак у гісторыю дружбы латышскага і беларускага народаў. Прадстаўнікі Беларусаў наведалі 18 жніўня 1921 года Райніса і прасілі яго прыняць на сябе абарону іх інтарэсаў у сейме, бо свайго дэпутата ў іх не было. Паэт-інтэрнацыяналіст, які заўсёды выступаў у абароне прыгнечаных, сын Латгаліі, які з дзяцінства сябраваў з Беларусамі, ведаў і любіў іх песьні, ахвотна згадзіўся аказаць падтрымку іх нацыянальным, культурным і адукацыйным імкненьням. З дапамогай Райніса ў 1922 годзе ў Даўгаўпісе (Дзьвінску) была адкрыта першая беларуская гімназія, якая стала пазьней галоўным беларускім асьветным цэнтрам у Латвіі. Але ў шавіністычнай атмасфэры буржуазнай Латвіі беларуская інтэлігенцыя павінна была самаахвярна адстойваць кожную сваю заваёву. У тым жа 1922 годзе ў час абмеркаваньня бюджэта на новы навучальны год узьніклі лютыя спрэчкі наконт неабходнасьці беларускіх школ. Было высунута патрабаваньне ліквідаваць ужо адчыненыя школы, бо Беларусы, як народ нібыта не існуюць. Двойчы ў той дзень узнімаўся Райніс на трыбуну сейма і, адбіваючы нападкі буржуазных нацыяналістаў, прыводзіў пераканаўчыя аргументы пра старажытнасьць беларускай гісторыі і культуры.

Дзякуючы палымянаму выступленьню і настойлівасьці Райніса асігнаваньні на патрэбы беларускай адукацыі былі адпушчаны. Аднак, праз год дэбаты ў сейме ўспыхваюць з новай сілай. І зноў Райніс, адзіны з ўсіх дэпутатаў, абараняе Беларусаў. Ён заявіў: "Наколькі можна зразумець са сказаных тут прамоў, пытаньне ставіцца так – хто ж выдумаў гэтых Беларусаў? Гавораць, іх выдумаў я. Я іх не выдумаў, бо гэта факт, што такі народ існуе. Але я іх абараняю, ад гэтага я не хачу адмовіцца...Я абараняю ўсіх тых, у каго няма іншага абаронцы".

Райніс заўсёды імкнуўся садзейнічаць разьвіцьцю дружбы паміж латышскім і беларускім народамі. У 1924 годзе, будучы дырэктарам Нацыянальнага тэатру, Райніс запрашае драматычны гурток Дзьвінскай беларускай гімназіі на гастролі ў Рыгу і аддае самадзейным артыстам галоўную сцэну Латвіі. Напярэдадні іх гастрляў ён піша сардэчны артыкул, каб зацікавіць публіку. "У якасьці артыстаў, – зазначыў Райніс, – дэбютуюць выхаванцы і выхаванкі беларускай сярэдняй школы. Уся гэта інтэлігенцыя не прадстаўляе заможных класаў, а паходзіць з нёмаёмасных слаёў – сялян, рамесьнікаў, рабочых. А іменна колы працоўнага люду імкнуцца да культуры і ўмацаваньня братскіх сувязей з латышскім народам".

На сардэчныя клопаты Райніса Беларусы адказалі любоўю і павагай... Сьмерць вялікага друга Беларусаў і заступніка іх была цяжкім горам... Пахаваньне яго вылілася ў палітычную дэманстрацыю латышскіх Беларусаў – яны выйшлі на вуліцы Рыгі аб'еднанай калонай."

Няма Райніса, няма латышскіх буржуазных нацыяналістаў, а нават каб і жыў да гэтага часу Райніс, нічога не памог бы – чырвоная кастлявая рука маскоўскіх і латышскіх цяперашніх фашыстаў зьмяла, як мятлой усё жыцьцё беларускае ў Латгаліі. Чаго не зрабілі латышскія буржуазныя нацыяналісты, тое зрабілі камуністы! Жудасна, але так ёсьць!

З 1796 г. было выдадзена ў Полацку 14 кніг на латгальскай гаворцы. З Менска езьдзілі фольклёрысты ў Латгалію. Запісалі шмат прыгожых беларускіх народных песьняў. Помнікі нашай культуры, помнікі нашай гісторыі ў Латгаліі далучылі камуністы да латышскай культуры і гісторыі. Ці ж ня крыўдна нам, Беларусам за гэта? Дзе "сьвяшчэнныя рубяжы" беларускай зямлі? Мы маем права і абавязак бараніць іх, як і маскалі свае.



Міхась Кавыль

## МАЯ МАЛІТВА

Крыжы і кроў – людзкое семя,
Як хлеб, сьвятло, – штодзённы дар...
Народжаны ў Віфлееме,
Збавіцель наш і Ўладар,
Як паміраючы бяз хлеба
Аб хлебе, буду паўтараць –
Зыйдзі яшчэ адзін раз зь неба
Не навучаць, зыйдзі караць.
Адамаў род ня верыць цуду,
А слова праўды не кажы.
І мы, як Ты, па волі Юды
Пакуты зносім на крыжы.
Зыйдзі, зьбяры раскрыжаваных,
Вядзі ў сьвяты, апошні бой.
Нябожчыкі зь зямлі устануць
І пойдуць з намі за Табой.

-----

## ПРА НАРОДНАЕ МАСТАЦТВА

Ёсьць два віды народнага мастацтва: мастацкія вырабы і вусная народная творчасьць. Кожнае з гэтых мастацтваў мае свае галіны. Адно і другое ствараецца патрэбамі жыцьця. Без яго жыцьцё чалавека было б вельмі простым, простым, як у зьвяроў. Бог, аднак, даў чалавеку розум тварыць мастацтва для патрэб жыцьця, упрыгожваць яго. Чым болей духоўна багаты чалавек, тым большае ягонае мастацтва ў вырабах, у вуснай творчасьці.

Мастацтва пачалося ад таго, калі чалавек пачаў выбляляць сабе патрэбныя рэчы. Мастацтва ў гэтым было тады, калі патрэбная рэч была выгадная, прыгожая. Да гэтага заўсёды імкнуўся чалавек.

Я ганаруся тым, што наш народ рабіў патрэбнае яму ў жыцьці з смакам прыгожасьці і зручнасьці. Але гэтак было калісь, калі чалавек сам сабе рабіў, або адумыслоўцы. У наш час гэтае мастацтва перанялі фабрыкі, майстэрні, але народнае мастацтва трымаецца яшчэ сваім кораням народнай глебы, яшчэ тое-сёе робіцца, хоць з цяжкасьцямі.

Асабліва шырака было пашыранае ў Беларусі ткацтва, вырабы з гліны, з дрэва. Часы зьмяніліся, зьмяніліся патрэбы, зьмяніліся абставіны. Але цяга да мастацтва, аднак, захавалася ў народзе.

І да гэтага часу нашы жанчыны стараюцца нешта выткаць сваімі рукамі. Праўда, цяпер ня ткуць кашуль, бо выгадней фабрычнае купіць, але ткуць дываны і г.д. што неадлучнае з мастацтвам. Праўда, цяпер цяжка гэта рабіць, бо німа нітак, німа воўны, німа лёну, нават німа фарбаў. З цяжкасьцямі, аднак, здабываюць і ткуць.

Цяпер у Нямеччыне вельмі модныя нашы кажушкі, шапкі вушанкі, а на Беларусі іх німа, бо німаваўчынак, а калі ваўчынкі ёсьць, цяжка іх вырабіць.

Тое самае і з глінянымі вырабамі. Німа як і чым давесьці гліны, дроў, хоць ганчары там-сям яшчэ ёсьць.

Цяпер на Беларусі агледзіліся, што народныя вырабы ёсьць жыцьцёвай патрэбай, ёсьць выгадныя у штодзённым жыцьці, іх фабрыкаты не падменяць, ды грошы...бо хто прыедзе у Беларусь, хоча нешта купіць на памятку, але хоча, каб гэта было нацыянальнае, прыгожае, выгаднае.

Аказалася, што нашы калісьнія гліняныя гаршкі ёсьць вельмі добрыя для кіслага малака, добрыя варыць у іх капусту. Ім не дараўняюць фабрычныя вырабы. Тое самае з ручнымі дыванамі, з ручным ткацтвам.

Пры цяперашніх абставінах цяжка ўсё гэта аднаўляць, але я тэй думкі, што ўсё ж такі тое-сёе адновіцца, створацца адпаведныя абставіны, каб захаваць гэтае народнае мастацтва.

П.

-----

Лондан. 10.11.72 у Лондане адбылося паседжаньне Брытыйскай Дэлегатуры АБН. Паседжаньне правёў Гр. К.Глінскі, Старшыня Дэлегатуры. На паседжаньні прымалі ўдзел Прэзыдэнт АБН Гр. Я. Стэцько і Галоўны Радактар"АБН-Карэспандэнт"-Гня. С.Стэцько. Былі абгавораны шэраг праблемаў зьвязаных з вызвольнай барацьбой паняволеных народаў і вырашаны засталі важныя бягучыя справы.

*******************

Манчэстар,Англія. У нядзелю 12.11.72 адбылося высьвячэньне Беларускай Праваслаўнай Царквы ў Манчэстары, якую купілі беларусы. У Богаслужбе браў удзел а.Яўгень Смаршчок з Бэльгіі, а. Я. Пекарскі і сьвятар ад Украінскай праваслаўнай царквы.

*******************

Нямеччына, Штутгарт.Internationale Vereinigung Christlicher Geschäftsleute ( IVCG ) 22.IX. і 24.11.г.г. ладзіла бягучыя даклады. На спатканьні і даклады запрошаны быў Д.Касмовіч.

*******************

## МАГУТНАЯ ДЭМАНСТРАЦЫЯ У ЛОНДАНЕ

З нагоды 50-годзя заснаваньня СССР і каб выказаць пратэст супраць так званай Канфэрэнцыі Бясьпекі у Гэльсінкі, 4-га лістапада г.г. Брытыйская Ліга Эўрапэйскай Свабоды арганізавала ў Лондане магутную Дэманстрацыю на якой прымаліўдзел каля двух с палавінай тысяч дэманстрантаў з паняволеных камуністамі краін і лонданцы.

Пратэстны мітынг пачаўся на Спікэр Корнэр у Гайд Парку. З нацыянальнымі сьцягамі прыбылі беларусы,літоўцы,харваты,эстонцы,харваты, ангельцы, вугорцы,палякі,чэхі,славакі,каб задэманстраваць сьвету супраць маскоўска-камуністычнага панявольніка над мільёнамі паняволеных людзей. З прамовамі выступалі Сябры Экзэкутывы Эўрапэйскай Рады Свабоды:Др. Т.Обэрлендар з Нямеччыны,М-м. Сусана Лабэн з Францыі,Рр. П.Ванкерговен з Бэльгіі, ад АБН- Гво Стэцько. Затым выступалі з прамовамі прадстаўнікі паняволеных народаў. Ад беларусаў выступаў Гр. М.Залога, Сябра БВФ. Пасьля гэтага маніфэстанты арганізована са сьцягамі і транспарэнтамі прайшлі па цэнтру Лондана і направіліся на Вайтгол - магілы Няведамага Жаўнера,каля Брытыйскага Парламэнту, дзе быў зложаны супольны вянок за 94-мільённыя ахфяры маскоўска камуністычнае акупацыі. Затым у Цэнтрал Гол насупраць Брытыйскага Парламэнту адбылася магутная веча,якое вёў Сябра Брытыйскай Лігі Мр. Дональд Мартын.За прэзыдыяльным сталом занялі мейсца прамінентныя асобы Захада ў тым ліку Прадстаўнік Беларусі - кап. Я.Будзіч,Начальнік Краёвага Штабу БВФ у В.Брытаніі. Першыя рады ў залі занялі іншанацыянальныя прадстаўнікі. Ганаровая варта з нацыянальнымі сьцягамі рэпрэзэнтавала прысутныя нацыі. З прамовамі выступалі Прадстаўнікі Заходня Эўрапэйскіх Краін і Гр. Стэцько ад Паняволеных Народаў. Заходнія Прадстаўнікі аднадушна падкрэсьлілі сваю салідарнасьць з вызвольнай барацьбой паняволеных народаў. Др. Т.Обэрлендар яскрава выказаў маскоўскую думку аб тк.зв. Канфэрэнцыі Бясьпекі і падкрэсьліў штоЭўрапэйская Рада Свабоды змагаецца за Вольнасьць і Незалежнасьць ўсіх эўрапэйскіх Народаў. Прадстаўнік Ветнаму намалеваў сытуацыю у ягоным краю і прааналізаваў,што можа стацца у Сьвеце,калі вольны Сьвет ня ўложыць пазытыўнай працы ў супрацьдзеяньне камуністычнай ідэалогіі і фізычнай экспансыі. Веча аднадумна прыняло рэзалюцыі ЭРС,АБН іБр.Лігі Свабоды,якія высланы Брытыйскаму Міністэрству Замежных Справаў. Масавым удзелам у Дэманстрацыі беларусы В.Брытаніі задэманстравалі сваю салідарнасьць з беларускім народам на Бацькаўшчыне.

*******************

Пасьля 6-й ВАКЛ Канфэрэнцыі у В.Брытаніі і на Эўрапэйскім Кантынэнце адбываюцца падгатаваўчыя паседжаньні да 7-й Канф.ВАКЛ.Прадстаўнікі БВФ, як Сябры ВАКЛ прымаюць актыўны ўдзел у гэтых паседжаньнях.

*******************

24.Х.72 у Сыднэі,Аўстралія памёр сьв.пам. Адам ЧУРЫЛА.Паходзіў з в. Круты Бераг,каля Нясьвіжа. У тэстамэнту запісаў дом Беларускаму Культурна-Грамадзкаму Клюбу ў Сыднэі.

*******************